# Голас Радзімы

№ 39 (2077)
29 верасня 1988 г.



ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)



Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.








Маладзечна добра знаёма нашым суайчыннікам на Захадзе. М[illegible]авіта праз гэты горад некалі праязджалі яны, пакідаю[illegible]азаўсёды сваю Радзіму. Якім ён запомніўся ім тады?

Маладзечна было звычайным правінцыяльным гарадком, дзе, можа, галоўнай славутасцю быў чыгуначны вакзал. А сёння ён уступае па прыгажосці, аздабленню і шматпавярховым жылым дамам, і, вядома, карпусам новых заводаў і фабрык.

Цяпер Маладзечна — адзін з буйнейшых культурных і прамысловых цэнтраў рэспублікі.

У сярэдзіне верасня горад адзначыў сваё 600-годдзе. Рознакаляровымі фарбамі стракацелі святочныя вуліцы, добразычлівымі ўсмешкамі гаспадары сустракалі шматлікіх гасцей. Тут праходзіла тэатралізаванае прадстаўленне.

НА ЗДЫМКАХ: работнікі Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў — удзельнікі тэатралізаванага прадстаўлення; свята адкрываў зводны духавы аркестр горада; вясёлыя гульні ў парку; Маладзечна сёння.

Фота А. НІКАЛАЕВА і
Л. КЛІМАНСКАГА.



ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ Ў МІНСКУ

Мінск наведаў член Палітбюро, сакратар ЦК Польскай аб'яднанай рабочай партыі В. Бака, які знаходзіўся ў нашай краіне з рабочым візітам па запрашэнню ЦК КПСС.

У ЦК Кампартыі Беларусі адбылася цёплая, сяброўская гутарка. Былі абмеркаваны пытанні партыйнага кіраўніцтва перабудовай эканомікі ў БССР і Польшчы. Удзельнікі гутаркі абмяняліся вопытам у гэтай галіне.

В. Бака наведаў мінскія вытворчыя аб'яднанні «Камсамолка» і «Гарызонт», дзе азнаёміўся з ходам эканамічнай рэформы.

ДЭЛЕГАЦЫІ

## ЗМАГАЦЦА РАЗАМ СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

На працягу трох дзён у Мінску знаходзілася дэлегацыя Асацыяцыі ветэранаў і ахвяр вайны Сірыі на чале са старшынёй Адміністрацыйнага савета дывізіённым генералам Мухамедам Аднан аль Наджарам.

Усхваляванымі прыйшлі госці на сустрэчу з актывам Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны. Напярэдадні яны агледзелі экспазіцыю Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і не хавалі сваіх уражанняў.

— Мы з вамі ў адным акопе, на баку міру, — сказаў, выступаючы на сустрэчы, старшыня аддзялення Асацыяцыі губернатарства Латакіі падпалкоўнік Абдэль Алтыф Абасі. — Сустракаючыся з савецкімі ветэранамі вайны ў Маскве і Мінску, мы пераканаліся, што ў СССР былыя франтавікі, партызаны і падпольшчыкі акружаны клопатам і ўвагай. Яны і сёння ў страі — выхоўваюць моладзь у духу дружбы і супрацоўніцтва з усімі народамі нашай планеты. Знешнепалітычная лінія нашай міралюбівай краіны супадае са спадзяваннямі савецкіх людзей, усіх тых, хто змагаецца супраць пагрозы новай вайны.

Члены дэлегацыі былі прыняты ў Мінскім гарвыканкоме, Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, азнаёміліся са славутымі мясцінамі Мінска.

10 МІЛЬЁНАЎ ТЭЛЕВІЗАРАЎ

## ПАДАРУНАК ДЛЯ КРЭЙСЕРА

У далёкі шлях да адрасата — ва Уладзівасток адпраўлены непасрэдна са зборачнага цэха вытворчага аб'яднання «Гарызонт» каляровы тэлевізар маркі «Ц-335И». Свой дзесяцімільённы тэлепрыёмнік калектыў вырашыў перадаць маракам крэйсера «Мінск», з якім звязаны даўнімі вузамі дружбы.

Прыступіўшы да стварэння адзінаццатага мільёна «Гарызонтаў», працаўнікі прадпрыемства ўзяліся на якасна іншы віток вытворчасці: яны больш не выпускаюць тэлевізары з чорна-белым экранам.

БРЭСТ—МЮЛЬХАЎЗЕН

## ПРАМЫЯ СУВЯЗІ

Пагадненне аб прамых навукова-тэхнічных і эканамічных сувязях падпісалі работнікі Брэсцкай доследна-эксперыментальнай фабрыкі верхняга трыкатажу і народнага прадпрыемства «Мюлана» з горада Мюльхаўзена (ГДР).

У час візіту ў брацкую краіну брэстаўчане пазнаёміліся з тэхналогіяй і арганізацыяй вытворчасці, асартыментам вырабаў нямецкіх калег на 1988—1989 гады, наведалі славуты Лейпцыгскі кірмаш.

Праграмай інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва прадугледжаны шырокі абмен перадавым вытворчым вопытам, прагрэсіўнымі тэхналогіямі, тэхнічнай дакументацыяй, сучаснымі моднымі мадэлямі.

ПАБРАЦІМСКІЯ СУВЯЗІ

## ПАЗНАЁМІЦЦА БЛІЖЭЙ

«Цяпер у Нотынгеме становіцца ўсё больш людзей, зацікаўленых у інтэнсіўным развіцці сувязей з горадам-пабрацімам Мінскам. Я думаю, што гэта вынік сацыяльна-палітычнага ўздзеяння перабудовы на жыхароў заходніх краін». Так лічыць генеральны сакратар гарадскога аддзялення Таварыства брытана-савецкай дружбы Роджэр Воан. Ён і нотынгемскі лідэр арганізацыі «Кампанія за ядзернае раззбраенне» Джэфры Янг знаходзіліся ў Мінску з мэтай умацавання кантактаў беларускага і англійскага гарадоў-пабрацімаў. Роджэр Воан прывёз цэлую папку пісьмаў, у якіх групы грамадзян гэтага старадаўняга горада прапануюць мінчанам наладзіць непасрэдныя асабістыя сувязі па самаму шырокаму кругу інтарэсаў: ад прафесіянальных да мастацкіх.

— Больш за ўсё нас цікавіць жыццё звычайнай сям'і з яе радасцямі і праблемамі, буднямі і святамі, — адзначыў Роджэр Воан у час абмеркавання тэматыкі чарговай фотавыстаўкі аб Мінску, якая будзе адпраўлена ў Вялікабрытанію.— Мы хацелі б як мага бліжэй пазнаёміцца з савецкімі людзьмі.

ГРАМАДСКАЕ ХАРЧАВАННЕ




**«Крыніца» — так назвалі ў Івацэвічах сталовую на 120 пасадачных месцаў і кафетэрый, якія нядаўна адкрыліся побач з чыгуначным вакзалам. Смачныя абеды, кулінарныя вырабы, свежая выпечка кандытарскага цэха прыцягваюць многіх наведвальнікаў.**
**НА ЗДЫМКУ: сталовая і кафетэрый «Крыніца» ў Івацэвічах.**

ПА РЭЦЭПТУ СУСЕДЗЯЎ

## БЕЗ САКРЭТАЎ

Не з суседняй Літвы, а з цэхаў Бярозаўскага сыракамбіната трапіў на прылаўкі брэсцкіх магазінаў новы від сыру «Меджатою», што ў перакладзе з літоўскага азначае «Паляўнічы».

Яго вытворчасць наладжана па тэхналогіі, перададзенай мясцовым сыраробам вільнюскім навукова-вытворчым аб'яднаннем «Атспара». Першыя партыі навінкі спадабаліся пакупнікам. А на аснове рэцэпта прыбалтыйскіх калег, дабавіўшы ў спецыі іншыя кампаненты, брэсцкія майстры атрымалі яшчэ адзін від сыру — «Белавежск...». Да яго вытворчасці падключыўся Столінскі маслазавод. Паводле заключэння спецыялістаў, гэты сыр вызначаецца добрымі смакавымі вартасцямі, высокай канцэнтрацыяй бялку і тлушчу, здольны доўга захоўвацца пры пакаёвай тэмпературы і ў дарозе.

ВЫСТАЎКІ

## ВЫХАВАЙ ВУЧНЯ

На незвычайную выстаўку запрасіў аматараў выяўленчага мастацтва Палац культуры Белсаўпрофа горада Мінска. У экспазіцыі, падрыхтаванай міжсаюзным Домам самадзейнай творчасці,— акварэлі і гравюры заслужанага настаўніка БССР Міхаіла Талмачова суседнічалі з графічнымі работамі і керамічнымі вырабамі яго вучняў — удзельнікаў мастацкай студыі Палаца культуры прафсаюзаў Брэста.

Забаўныя маскі, фігуркі людзей і жывёл, маляўнічыя керамічныя пано і размаляваныя глазураваныя блюды, афорты, лінагравюры, акварэльныя кампазіцыі — чаго толькі не ўбачылі на выстаўцы наведвальнікі. І гэта толькі частка створанага ў студыі Талмачова за апошнія гады. Майстэрства выхаванцаў і іх настаўніка адзначалася на рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках, шэраг работ удастоены дыпломаў і медалёў зарубежных конкурсаў. Многія вядомыя сёння жывапісцы, скульптары, архітэктары, якія пачыналі калісьці ў гэтай студыі выяўленчага мастацтва, з удзячнасцю ўспамінаюць першыя ўрокі М. Талмачова, што вызначылі іх выбар у жыцці. Выстаўка, якая працягвалася да канца верасня, дэманстравала гледачам пераемнасць у творчасці мастака-педагога і яго вучняў.

ЗНАХОДКІ

## ДЗЕ ЖЫВЕ УДАЧА

Адразу два скарбы паступілі ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей. Спачатку быў дастаўлены металічны куфэрак, у якім было 130 рэчаў, а затым — сталовы набор з 27 прадметаў. І той, і другі знойдзены на тэрыторыі Шчучынскага раёна, дзе, як мяркуецца, яны праляжалі ў зямлі больш за стагоддзе.

Тут выраблены з белага металу і фарфору распісныя падносы, кафейнік, сталовыя прыборы, карзінка і ваза для фруктаў, разныя падсвечнікі, шкатулкі... На некаторых вырабах добра відаць гады выпуску: «1868», «1879», «1880».

Абодва скарбы будуць старанна вывучаны. Работнікам спецыяльнай дзяржінспекцыі трэба будзе вызначыць таксама іх матэрыяльную каштоўнасць для выплаты ўзнагароджанняў тым, хто знайшоў скарбы.

Пасля рэстаўрацыі знаходкі разам з паступіўшымі раней калекцыямі рэдкіх манет і іншых прадметаў будуць выстаўлены ў музеі.

ТЭХНІЧНАЯ АДУКАЦЫЯ

## СТВОРАНЫ ІНЖЫНЕРНЫ ЦЭНТР

Інжынерны цэнтр створаны ў адной з буйнейшых вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі — Мінскім радыётэхнічным інстытуце.

Гэта падраздзяленне, аснашчэнне якога фінансавалі заказчыкі навуковых распрацовак, дапаможа ў два-тры разы скараціць тэрміны ўкаранення вынікаў даследаванняў у вытворчасць. Інжынерны цэнтр, які стаў пасрэднікам паміж навукай і вытворчасцю, узяў на сябе не толькі даводку тэхналогіі, але і падрыхтоўку заводскіх спецыялістаў да выпуску новай прадукцыі. Карысны ён і для навучання студэнтаў, якія маюць цяпер магчымасць працаваць на самым сучасным абсталяванні, рыхтаваць курсавыя і дыпломныя праекты па рэальнай тэматыцы.

ПАЖЫЛЫЯ ЛЮДЗІ

## «НЕ» — АДЗІНОЦЕ

У свой Дом ветэрана пераедуць на зіму адзінокія старыя з аддаленых вёсак калгаса «Маяк» Шаркоўшчынскага раёна. Па рашэнню сельскага сходу у былой канторы з'явіліся пасля рамонту зручныя жылыя пакоі. Тут усё, як у сапраўдным доме: кухні, кладовая, склеп для захоўвання прадуктаў, пакой, дзе можна заняцца рукадзеллем, ткацтвам, пляценнем кошыкаў. А што тавар не заляжыцца, у гэтым у калгасе ніхто не сумняваецца: на некалькі год наперад сабрана ў гаспадарцы заказаў на вырабы ўмельцаў. Не выходзячы з дому, «навасёлы» змогуць купіць прадукты і іншыя неабходныя дробязі.

Сёння ў раёне 180 адзінокіх пажылых людзей. Многія з іх маюць вострую патрэбу ў дапамозе. Таму ў 34 населеных пунктах раёна адкрыліся дамы сацыяльных паслуг.

Каб звярнуцца да ўрача, зрабіць пакупкі, заказаць адзенне, старым не трэба ездзіць у горад. Па графіку абслугоўваюць насельніцтва аддаленых вёсак спецыялісты.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



**Нядрэнны ўраджай бульбы атрымалі члены паляводчага звяна, якое ўзначальвае механізатар А. Максіменка ў калгасе імя Дзяржынскага Міёрскага раёна. Яны вырошчвалі бульбу на 135 гектарах. Па папярэдніх падліках, з кожнага з іх звяно атрымае па 170—180 цэнтнераў клубняў. Сёлета паддадны калектыў прадасць дзяржаве больш тысячы тон бульбы.**
**НА ЗДЫМКУ: уборка бульбы ў калгасе імя Дзяржынскага Міёрскага раёна.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БАРАНАВІЧЫ. Востры попыт пакупнікоў на якасны абутак у недалёкай будучыні дапаможа задаволіць новая абутковая фабрыка, будаўніцтва якой пачалося тут. Прадпрыемства разлічана на выпуск двух мільёнаў пар абутку ў год. Праектам прадугледжана стварэнне двух патокаў «люкс» для вырабу асабліва якаснага абутку.

КАРЭЛІЧЫ. Прыродны газ падведзены ў вёску Аюцавічы. Блакітныя агні пліт запаліцца ў кватэрах, дзе жывуць звыш сарака сем'яў паляводаў, механізатараў, спецыялістаў мясцовага калгаса «Савецкая Беларусь». На танным паліве будзе працаваць таксама будуемая цяпер у гаспадарцы кацельня, якая забяспечыць цяплом жылыя дамы, прадпрыемствы гандлю і быту, адміністрацыйныя будынкі.

МАГІЛЁЎ. Свой санаторый «Днепр» будзе ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі вобласці. Будаўніцтва здраўніцы разгарнулася ля маляўнічага гаю на беразе Дняпра.

Першая чарга санаторыя разлічана на 250 месцаў у змену. З пускам усяго комплексу тут адначасова змогуць папраўляць сваё здароўе пяцьсот чалавек.

На тэрыторыі будучай здраўніцы выяўлена лячэбная падземная крыніца.

СТАРЫЯ ДАРОГІ. Конкурс кветаводаў у гэтым раённым цэнтры праходзіць не першы раз і стаў ужо традыцыйным. Вось і сёлета рознымі колерамі і адценнямі пераліваліся астры, цыніі, нігелы, вяргіні, браткі... Стваральнікамі гэтай прыгажосці былі кветаводы-аматары Старадарожскага раёна, якія выставілі свае «творы» на суд гледачоў і спецыяльнага журы.

## ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ ПРАЦОЎНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У САЦЫЯЛАГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯХ

# ПРЫВАТНІКІ І КЛІЕНТЫ

**Ужо больш як год дзейнічае ў СССР закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Аднак не сціхаюць дыскусіі аб эканамічнай эфектыўнасці і маральнай мэтазгоднасці індывідуальнай, ды і кааператыўнай працы. Аб гэтым сведчаць сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя па заказу ЦК ВЛКСМ. Вынікі даследаванняў каменціруе Франц ШАРАГІ, кіраўнік навуковай работы.**

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што мінулы год насуперак чаканню прывёў да некаторага падзення аўтарытэту недзяржаўнай эканомікі ў вачах насельніцтва. Калі год назад 67 працэнтаў апытаных былі прыхільнікамі новых відаў працоўнай дзейнасці, то, паводле даных 1988 года, пазітыўна ацэньваюць іх рэальную практыку 58 працэнтаў апытаных. Колькасць тых, хто адназначна не адабрае такія віды дзейнасці, павялічылася ў 7 разоў і складае 14 працэнтаў.

Сёння існуе парадаксальная на першы погляд сітуацыя: кааператары ігнаруюць патрэбы насельніцтва. Індывідуальныя і кааператыўныя паслугі пакуль прапаноўваюцца пераважна ў сферы грамадскага харчавання, прыватных таксі, пашыве адзення, у той час як насельніцтва, паводле даных апытання, мае патрэбу перш за ўсё ў рамонце і абмене кватэр, аўтамабіляў, тэлерадыёапаратуры, у прыватных медыцынскіх кансультацыях.

Ёсць і іншая прычына. Мінулагодняе апытанне грамадскай думкі паказала, што ў сферу індывідуальнай і кааператыўнай дзейнасці ў першую чаргу пайшлі маладыя людзі 25—30 гадоў, якія зведваюць матэрыяльныя цяжкасці (даход меншы за 80 рублёў на чалавека ў сям'і), дрэнна забяспечаныя жыллём. Магчымасць паправіць свой сямейны і асабісты бюджэт застаецца самым важным стымулам уступлення ў кааператыў у 48 працэнтаў апытаных. Толькі трэць апытаных удзельнічае ў індывідуальнай і кааператыўнай дзейнасці для раскрыцця сваіх творчых і прафесійных здольнасцей.

Аб тым, што ў многіх няма імкнення выпускаць тавар высокай якасці, павышаць эстэтыку абслугоўвання, сведчыць, напрыклад, такі факт: прыватнікі і кааператары часцей за ўсё рэалізуюць сваю прадукцыю ананімна: 69 працэнтаў апытаных прадаюць яе «дзе прыйдзецца» — на рынках, перакрыжаваннях. Праз дзяржаўныя камісійныя магазіны тавары рэалізуюць толькі 9 працэнтаў вытворцаў.

Безумоўна, рвачы, якія не гарантуюць якасць тавару, імкнуцца нажыцца за кошт існуючага дэфіцыту на тавары і паслугі, — не доўгажыхары ў новай сістэме індывідуальнай і кааператыўнай працы. У будучыні канкурэнцыя выцесніць іх з рынку.

Існаванне тэндэнцыі атрымаць сёння і цалкам тлумачыцца ў многім няўпэўненасцю ў будучыні гэтай формы рынычных зносін. Толькі 48 працэнтаў апытаных кааператараў адзначылі, што ў іх не было затрымак з афармленнем дакументаў, каб пачаць сваю дзейнасць. Даволі часта ўзнікаюць складанасці з набыццём сыравіны, арэндай памяшканняў і транспарту. Галоўнае ж, кааператары часта сутыкаюцца з нядобразычлівымі адносінамі да сябе і свайго новага занятку з боку калег па працы, суседзяў, мясцовых органаў улады. Гэта адзначылі 22 працэнты апытаных.

Людзі, якія працуюць у сферы недзяржаўнай эканомікі, і іх кліенты па-рознаму ставяцца да магчымасцей кааператараў і прыватнікаў атрымліваць высокія заработкі. Сярод спажыўцоў 18 працэнтаў апытаных згодны з грамадскім ганьбаваннем, якому падвяргаюцца грамадзяне, якія сваёй працай атрымліваюць дадатковы заработак. Сярод вытворцаў гэты працэнт у два разы ніжэйшы.

Апытанні паказалі, што насельніцтва незадаволена высокімі цэнамі, устаноўленымі індывідуальнымі вытворцамі на свае тавары. 54 працэнты апытаных патрабуюць жорсткага абмежавання цэн і строгага кантролю. Анкета сведчыць, што гэтыя нараканні ўзніклі не на пустым месцы. Сёння 42 працэнты індывідуальных вытворцаў купляюць сыравіну і матэрыялы ў магазінах па рознічных цэнах, якія часта ўключаюць у сябе дзяржаўную датацыю. 49 працэнтаў атрымліваюць сыравіну па дагавору з прадпрыемствамі, якія прадаюць адходы па стратных цэнах. Аднак незалежна ад кошту сыравіны гатовая прадукцыя рэалізуецца па рыначных цэнах.

Многія недахопы існуючай практыкі прыводзяць да таго, што за год колькасць людзей, хто бачыць у кааператыўнай і індывідуальнай працоўнай дзейнасці толькі від нажывы, павялічылася ў 2 разы і склала 18 працэнтаў апытаных. Безумоўна, пэўную ролю ў гэтым меркаванні адыгрывае пагроза празмернага ўзбагачэння, якая ўсталявалася ў свядомасці мас, ідэал ураўнілаўкі, што дзесяцігоддзямі культываваўся, адносіны да высокіх асабістых даходаў як несумяшчальных з сацыялізмам.

Мяркуючы па даных нашага даследавання, сярэднемесячны заработак прыватнікаў і кааператараў вышэйшы, чым сярэдняя зарплата ў краіне, і складае каля 300 рублёў. Сярэднемесячны даход, пры якім прыватнікі і кааператары лічаць мэтазгоднай сваю дзейнасць, — мінімум 180 рублёў. «Двайная зарплата» даецца нялёгка. Для яе атрымання даводзіцца затрачваць дадаткова ў дзень шэсць гадзін рабочага часу, гэта значыць, практычна адпрацаваць другую змену.

## *ПРАБЛЕМЫ Ў ВЫРАШЭННІ «ЖАНОЧАГА ПЫТАННЯ»*

# ЭМАНСІПАЦЫІ НЕ МОЖА БЫЦЬ ЗАНАДТА МНОГА

Да нядаўняга часу ў Савецкім Саюзе — і ў прэсе, і з высокіх трыбун — было прынята часцей гаварыць пра дасягненні ў вырашэнні «жаночага пытання», чым пра яго ценявыя бакі. Здаецца, аднак, што жаночая эмансіпацыя перастае быць «абсалютнай каштоўнасцю»: чым далей, тым больш спрачаюцца аб шляхах яе развіцця ў СССР, дзе раўнапраўе жанчыны і мужчыны ва ўсіх сферах жыцця гарантавана і ахоўваецца Канстытуцыяй. Такі падыход дазваляе не толькі ацаніць перавагі, але і выявіць неспрыяльныя моманты, намеціць шляхі іх ліквідацыі. Можна, напрыклад, захапляцца жанчынамі, якія ўсё паспяваюць. Але працаваць і адначасова займацца выхаваннем дзяцей, весці хатнія справы нялёгка. Такія нагрузкі, вядома, шкодзяць жанчыне, як маці і жонцы, і разладжваюць гэтым сям'ю. І спад нараджальнасці — таксама стыхійны адказ жанчын на рост перагрузак... Вось што, у прыватнасці, піша аб няўдачах у сферы асабістага жыцця ў газеце «Советская Россия» вядомы дэмограф **Віктар ПЕРАВЕДЗЕНЦАЎ.**

— Аб прычынах гэтых няўдач — меркаванні самыя розныя. Як, натуральна, і аб мерах, якія неабходна прымаць, каб гэтыя няўдачы перадолець. Многія лічаць, напрыклад, што «ўся справа ў жаночай эмансіпацыі», якая, маўляў, «занадта далёка зайшла». І, натуральна, прапаноўваюць: «вярнуць жанчыну ў сям'ю», вярнуць ёй становішча «захавальніцы дамашняга ачага», вызваліць жанчыну ад работы на вытворчасці. Асабліва распаўсюджана прапанова, што мужу трэба «больш плаціць», а жонцы — «менш працаваць».

Няма сумнення ў тым, што адной з галоўных прычын няўдач у асабістым жыцці з'яўляецца становішча жанчыны ў грамадстве. У тым, што яна не «занадта», а недастаткова эмансіпіравана: нярэдка менавіта цану эмансіпацыі і яе выдаткі прымаюць за яе плён. «Занадта многа» эмансіпацыі быць не можа, таму што эмансіпацыя — гэта вызваленне.

Нідзе ў свеце жанчына не занята ў грамадскай вытворчасці больш, чым у СССР. Усюды ў свеце мужчыны і больш адукаваныя, і больш імкнуцца да адукацыі, чым жанчыны. У СССР — наадварот. Гэта адзін бок справы. Другі—большасць жанчын працуюць [illegible] тых галінах народнай гаспадарк[illegible]ых галінах прамысловасці і ў тых прафесіях, дзе праца аплачваецца адносна нізка. Пры аднолькавай зарплаце за роўную працу сярэдні заработак жанчын намнога ніжэйшы за мужчынскі.

Статыстыка, на жаль, старалася ўсё гэта затушаваць. У выніку ўтварыліся дыспрапорцыі, якія негатыўна адбіліся на развіцці народнай гаспадаркі і грамадства ў цэлым. Так, напрыклад, амаль поўная адсутнасць настаўнікаў-мужчын (гэта скажа любы педагог) дрэнна адбілася на стане школы.

Такія вось выдаткі эмансіпацыі, яе недастатковасць. Аднак з гэтага зусім не вынікае, што жанчыны павінны сядзець дома. Праца ў грамадскай гаспадарцы — асаблівая і важкая сацыяльная каштоўнасць для жанчыны, якая рэзка падымае яе самаацэнку.

— Нелады наконт размеркавання сямейных спраў, — працягвае вучоны, — адна з галоўных прычын цяперашняй павышанай канфліктнасці і нетрываласці маладых сямей. Вынікі гэтага разнастайныя, але заўсёды неспрыяльныя (драмы разводаў, адзіноцтва і многае іншае). Вось некаторыя звесткі аб дэмаграфічнай сітуацыі і дэмаграфічных тэндэнцыях у сувязі з праблемай асабістага жыцця. Колькасць разводаў у апошнія гады стабілізавалася прыкладна на ўзроўні больш за 900 тысяч у год (34 разводы на кожныя 100 шлюбаў, заключаных у тым жа годзе). Гэта, вядома, не азначае, падкрэслівае Пераведзенцаў, што ўсе дэмаграфічныя праблемы — вынік сямейных цяжкасцей. Аднак несумненна, што сацыяльная няроўнасць мужа і жонкі і звязаная з гэтым дэзарганізацыя сямейнага жыцця адбіваюцца на дэмаграфічнай сітуацыі.

Вось прыклад. Раней выхаванне дзяцей было прыватнай справай сям'і, сям'я з гэтым—добра ці дрэнна,—але спраўлялася. Сям'я была кроўна зацікаўлена ў дзецях, і чым больш было дзяцей, тым для сям'і, як правіла, лепш — таму і мелі іх столькі, «колькі бог паслаў». Дзеці былі для бацькоў адзінай гарантыяй колькі-небудзь забяспечанай старасці, карміцелямі бацькоў на старасці год. Цяпер галоўная крыніца існавання для пажылых і старых людзей — пенсія. Дзеці для гэтага становяцца непатрэбнымі. Да таго ж, чым больш будзе ў [illegible]чыны дзяцей, тым менш у сярэ[illegible]м яе пенсія. Бо назначаецца яна ў пэўным працэнце да заработку за шэраг апошніх год работы, а чым больш у жанчыны дзяцей — тым ніжэй яе кваліфікацыя, меншы стаж, меншыя заработкі.

Пры распрацоўцы цяперашняга пенсійнага заканадаўства гэты аспект быў упушчаны, і адзіная пенсійная «льгота» жанчынам-маці — магчымасць атрымаць пенсію на пяць год раней, калі яна нарадзіла і выгадавала не менш пяці дзяцей. Гэты недахоп павінен быць выпраўлены ў новым пенсійным заканадаўстве.

Асабліва таму, упэўнены Пераведзенцаў, што дзеці патрэбны цяпер грамадству эканамічна больш, чым сям'і. А выхаванне кожнага асобнага дзіцяці стала вельмі працяглым, цяжкім і дарагім. Трохдзетная сям'я, пры іншых аднолькавых умовах, жыве ў эканамічных адносінах горш за аднадзетную — гэта паказваюць спецыяльныя абследаванні, ды і вядома з жыццёвай практыкі. Для выхавання дзяцей бацькам даводзіцца многім ахвяраваць, не толькі матэрыяльным узроўнем жыцця, але і часам сіламі, нервамі...

Навука настойвае, што працягласць водпуску па догляду дзіцяці павінна складаць тры гады. Пры гэтым медыкі называюць гэтую лічбу, зыходзячы з інтарэсаў здароўя і паўнацэннага развіцця дзіцяці, дэмографы маюць на ўвазе павышэнне нараджальнасці і ўмацавання сям'і, а эканамісты, са свайго спецыфічнага пункту гледжання, аддаюць перавагу таму, каб маці вярталася на працу паўнацэнным работнікам, які не абцяжараны пастаяннымі клопатамі аб дзіцяці, не знікае раз-пораз з поля зроку ў сувязі з яго хваробамі і да т. п.

Уласна кажучы, першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. Жанчынам-маці прадастаўлены часткова аплачваемы водпуск па догляду дзіцяці да года. Сацыяльная праграма бягучай пяцігодкі (1986—1990 гады) мяркуе яго павелічэнне да паўтара года. Але зразумела, што гэта толькі пачатак шляху. Многае яшчэ трэба зрабіць для таго, каб жыццё жанчыны па-сапраўднаму стала паўнацэнным і гарманічным.



**Каля адной трэці тэрыторыі нашай рэспублікі займаюць лясы — яе вялікае нацыянальнае багацце.**

**Вырошчванне лясоў, перапрацоўка драўніны — важная галіна эканомікі рэспублікі. Работу тут вядуць дзесяткі мясцовых лясных гаспадарак. Адна з лепшых сярод іх —Глыбоцкая. Асноўны напрамак яе дзейнасці — пастаяннае аднаўленне зялёных насаджэнняў, галоўным чынам высокапрадукцыйных. Тут арганізавана лесанасенная гаспадарка з вялікімі плантацыямі, гадавальнікам, элітны матэрыял для якога нарыхтоўваецца па ўсёй Беларусі, цяпліцай і дэндрасадам, дзе праводзяцца феналагічныя назіранні за ростам рэдкіх драўнінна-хмызняковых парод. Лясгас штогод высаджвае сотні гектараў лесу, забяспечвае пасадачным матэрыялам іншыя гаспадаркі, вясной і восенню прадае насельніцтву саджанцы каліны, абляпіхі, чарнаплоднай рабіны, маньчжурскага арэха. Закладзены гадавальнік па вырошчванню садовых культур.**

**НА ЗДЫМКУ:** на плантацыі блакітных елак.

Фота А. ТАЛОЧКІ.

# IMAGES OF THE SOVIET UNION

## THE IMPRESSIONS OF FORTY-FOUR SOUTHERN LEHIGH HIGH SCHOOL STUDENTS TRAVELLING IN THE SOVIET UNION



**People learn, originally, about foreign lands and cultures from books, films and second-hand accounts of life different from their own. This knowledge and perspective can, over time, become imbedded and stereotyped, and in some instances have little relationship to the truth.**

**Reality comes with face-to-face contact with other ways of life. Individuals have the opportunity to make their own decisions concerning the nature of the society and the people they meet. Impressions held are a direct product of real experiences they have had and shared.**

**In [illegible] of 1988, Forty-four students from Southern Lehigh High School travelled to the Soviet Union, to experience firsthand the culture, the people and the land itself. The heart of the experience was [illegible]ng the daily life of Soviet teenagers in Minsk. The American students, ranging from ninth to twelfth grade, attended schools, ate, danced, competed, laughed and cried with a group of their Soviet counterparts. They attended a World Leadership and Peace Conference with Soviet students, discussing and sharing personal perspectives and feelings. They visited homes and shared evenings around the samovar, as part of Soviet family life. They had the unique opportunity to experience Soviet life from inside, and have returned with many new and changed perspectives.**

**During the return flight to the United States, each student responded to a set of questions related to their experiences in the Soviet Union.**

**This extraordinary record of the students' impressions, compiled by Delegation leader Walt Tremer, illuminates their thoughts, feelings, knowledge and emotions as they came into contact with the reality that is the Soviet Union.**

**The students speak a message to us all.**

*What was the best thing that happened to you?*

*What was the worst thing that happened to you?*

"The best thing that happened to me throughout the entire trip was Minsk. The whole experience of being there should be greatly cherished and thought higly of. Breaking it down a bit, having the chance to meet, to talk to and make friends with people that live halfway around the world is really unbeliveable. Knowing that for that week in Minsk we had the opportunity to make up every morning and gain a little more knowledge of a totally different culture. We learned so many things about their country, and realized that they are really all people just like us. In general spending time with my Soviet friends beat everything else."

**S. G.**

"The best thing that happened to me was visiting the homes. It was one of the most moving experiences of my life. They served such fine foods on their good silver and china. The family was eager to hear about us and bombarded us with questions. I realized that the people of the Soviet Union are people just like Americans. Those three hours changed my perspective on not only the Soviet Union, but the people of the world."

**T. M.**

"It's really difficult for me to say what the "best thing" that happened was. Each city and every person that I met was a special experience in its own way. I tend to think of the whole trip as the best thing that ever happened to me."

**Kr. H.**

"The worst things I've had to do have been saying goodby to people and places I love dearly and know I'll probably never see again."

**S. M.**

"The worst thing that happened to me was the suffering of fatigue of the trip in Minsk. I was worn out from the schedule and lack of sleep. I had a few minor hang-ups, but they were so offbeat that I enjoyed them."

**T. M.**

"The worst experience I had was when I got lost or left two beautiful flaxe dolls in Leningrad."

**K. F.**

"Nothing bad happened to me!"

**J. F.**

*What was your most memorable experience?*

"...realising that I was important to my friends in Minsk and that I would keep these friends forever. Even if I do never see them again, I would still remember them and cherish our meeting."

**J. D.**

"Our first day in Minsk was spent partially in the Pioneer Palace, which is a building devoted to extra-curricular activities and community service. Everyone seemed so thrilled to have us their, and opened up their classrooms to our viewing. I was taught to make small objects from straw by a precious five-year old girl. The language barrier did not bother her in the least. She had so much knowledge for a young child. I was really amazed about all they could do. I later met a girl of ten. We were talking and she was so eager to use what English she could and find out everything about me. At the end of our stay, after exchanging addresses, we all got up to leave. She ran after me and tugged on my sleeve. Before I knew it, she had taken off her neck scarf, which is part of her Pioneer uniform, and proceeded to tie it around my neck as a gift. At that moment I can hardly explain how I felt, but I was overcome with a warm feeling and my heart was filled with love for this young girl and her people."

**S. G.**

"I had the best experience when we visited Natasha's home. Her family was so warm and open. We had a Polaroid camera and gave them instant pictures of us and the evening. They must have gone out of their way so much to make us feel welcome. At ten o'clock we were all laughing like old friends. I am very glad we are new friends."

**M. V.**

"Any time I spent with the students was memorable. The best was Mondey night that the disco was held at School No 30. There was a big circle of both American and Soviet students. In the middle of the circle was one Soviet boy who was a GREAT dancer. He saw me dancing, pulled me into the circle and we danced. I'll never forget that. The rest of the night I danced mostly with him."

**S. T.**

"Going to the students' homes."

**K. F.**

*What advice would you give to someone about to go to the Soviet Union?*

"Pack warmly."

**B. H.**

"Have an open mind. Many people in our country have many prejudices about the Soviet Union and the people there. In order to fully experience the people, you have to put these prejudices and stereotypes aside, and realize how alike we all really are. If you enter openly, you will have a much better experience, because you will find some differences in their basic style and way of living. Furthermore, I suggest you to eat about six pizzas before leaving, because you may find the food a bit different than you are accustomed to."

**S. G.**

"Spend a real amount of time to get to know the people of one area. If you get to understand and care, you will have the best time of your life. A person can't appreciate a country unitill their way of life is understood. Also, to keep an open mind and not let old ideas get in the way and to try new things, especially the food. I really enjoyed it after I got used to it."

**M. V.**

"Try to meet people. They are not nasty and harsh, but friendly and very much like Americans."

**D. M.**

"Get rid of all the prejudices against Soviets. Learn at least a few Russian words."

**J. C.**

"Bring more camera film than you could ever imagine using for the amount of time you are going. I guarantee that you will most definitely use it all."

**D. S.**

*What do you like most of the country?*

"I loved the expression and emphasis on the tradition and culture made by every Soviet. At every age there was something shown to prove their heritage. I was really impressed by this."

**J. D.**

"The people, definitely the people."

**M. S.**

"Talking to the people, I discovered that the Soviet people want world peace just as we do. I also discovered that Soviet people have little prejudice about us."

**M. B.**

"Openness."

**B. H.**

"I enjoyed finding that the people's views of a world living in harmony and peace were much the same. The similar idea of peacefulness between the peoples shows that it is possible in the near future for our people to actually live out these ideas of peace with one another."

**B. M.**

"I like the pride the Soviets show in the Great Patriotic War. I wish that in America our people would honour their veterans as much as the Soviets do, and remember the terrible results of war."

**D. M.**

"There is less crime and they are all educated."

**D. L.**

"The country was amazingly clean, with everyone employed."

**J. M.**

*Were the people as you expected them to be?*

"I expected the people to be nice to us, but I was surprised at how nice and friendly they really were. At the school in Minsk everyone wanted to meet us. They would just walk right up and say "Hi!"

**S. M.**

"People are people, it does not matter what language they speak or what they beleive in."

**M. S.**

"No, the people were nothing like I expected. I had the picture of a cold, dark, mean and unfriendly people, and I soon discovered that they were very marm, friendly and compassionate."

**M. B.**

"The people were not as sad and in need as I expected. They are much more open. The people were very kind and unforgettable. Their standard of lifing is higher than we are often told."

**G. M.**

"We have many misconceptions in America about the Soviets. Our media shows many false perceptions of the Soviet people. When I arrived I thought I would find cruel people who hated Americans. But what I found were people similar to me. I wish all Americans could come to the USSR and meet the people. It would solve many problems in the world."

**D. M.**

*What do you feel you have gained personally?*

"I personally have learned a lot about the Soviet Union that I did not know before. I thought the people lived in awful, really small apartments with no private homes. The family whose home I visited had a nice apartment. It wasn't huge, but it was really nice. Also, I thought that they did not like living there and they all wanted to get out. That's not true. They like Gorbachev."

**C. D.**

"Personally I gained the understanding that the United States is not the only country in the world to think about. I also feel ashamed of the American people who will not try to learn about the Soviet Union, simply fear of communism biases their views. The Soviet people are fabulous, the United States could learn a lot from them."

**M. B.**

"My eyes were opened to the rest of the world."

**J. C.**

"I think my outlook on the Soviet Union has changed so much. I can now look at the news about international relations and know that my friends on the other side of the globe are feeling the same emotions that I am, whether joy, sadness, fear or hope, because they mant the same things that I do, and I will care about events and try to be involved because my friends are involved."

**M. V.**

*How do you feel the Soviets view Americans?*

"I think the Soviets are very curious about Americans. I think they realize that the people are the same, generally speaking. Wherever you go, the only thing that might make us appear different are forms of government and social customs."

**S. M.**

"I think they view us as normal people, but with a strange government. Just as I thought of them before I went. There are now many more Soviets who love our people, though, now that we nave enlightened them with our story."

**J. D.**

"They fear us like we do them, but it could all end with meetings such as these more often."

**B. S.**

"I think the Soviets view us as really rich or really poor. They don't seem to understand that most of us are middle class."

**M. B.**

"When I went to the Soviet Union, I thought there was a total hatred between a Soviet and American citizen. But after talking to the people and gathering their views, I have come up with the following conclusion — the Soviets respect the Americans and the way the Americans live. They have this respect, but at the same time they have little fear of our actions in world affairs.

The Soviets are not afraid of the Americans as much as our society is afraid of them. They want peace very much and they show it in a variety of ways. Although I do not agree with all of them, I like their youth programs of international friendship and peace."

**M. V.**

*Would you go again?*

I would love to go back to the Soviet Union on a trip like this. I would like to meet more of the people and be able to spend some time wandering around on my own."

**S. M.**

"I would go again, but not awhile, and not by myself. You need people who understand you completely every once in awhile. I need my own country now."

**J. D.**

"I would go to Minsk again because I feel it important. It was one of the greatest experiences of my life. I will go again some-time."

**M. S.**

"Yes, I loved Minsk. The people were great, and the city beautiful."

**J. C.**

"I would go again in a heartbeat. I would love to go again to see the many friends I made, and to see how the country has progressed."

**R. K.**

"Someday I hope to return to Minsk. If we really want world peace, then continued relations between American and Soviet people are a must."

**M. B.**

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ПЕРАБУДОВА

# ПАЗІЦЫЯ: ДАЙСЦІ ДА ІСЦІНЫ

*У савецкім грамадстве ідзе рэвалюцыйны па свайму духу працэс абнаўлення ва ўсіх сферах жыцця. Ідэі перабудовы трывала ўвайшлі ў свядомасць і душу кожнага, каго хвалюе лёс краіны, будучыня сацыялізму. Гэта пацвердзіла і нядаўняя XIX партыйная канферэнцыя. Мяркуючы па выступленнях на ёй дзеячаў культуры, па газетных і часопісных публікацыях, савецкая інтэлігенцыя дакладна вызначыла сваю пазіцыю — яна падтрымала ідэі перабудовы і актыўна прымае ўдзел у абмеркаванні найбольш важных для грамадства праблем, спрыяе іх вырашэнню.*

*Сёння мы прадастаўляем слова дзеячам беларускай культуры. З імі гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.*



**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, пісьменнік, рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва»**

**— Як паўплывала на газету перабудова! Што, на ваш погляд, стрымлівае яе рух у рэспубліцы!**

— Адна з галоўных заваёў перабудовы — публічнасць. За апошнія два-тры гады, дзякуючы ёй, вельмі змяніліся мы самі, змянілася грамадства. Мяняецца і друк. Ідзе ломка старых паняццяў, гадамі застою сфарміраваных стэрэатыпаў мыслення. Працэс гэты не бязбольны. Аднак зрухі відавочныя: стала магчымым друкаваць літаратурныя творы, якія яшчэ нядаўна лічыліся крамольнымі, вяртаюцца з забыцця незаслужана забытыя імёны; вядуцца вострыя дыскусіі на самыя «гарачыя» тэмы, кожны можа выказацца па тых пытаннях, якія яго найбольш хвалююць.

Наша газета імкнецца стаць сапраўднай трыбунай беларускай інтэлігенцыі. Ужо з самага пачатку перабудовы перад штотыднёвікам паўстала задача: усвядоміць пройдзены народам шлях, яго набыткі і страты, вызначыць перспектыву. Распачалася дыскусія па праблемах сучаснай нацыянальнай культуры. Асаблівую трывогу ў інтэлігенцыі выклікае становішча з беларускай мовай, якая, як паказвае сумны вопыт, на жаль, пачынае знікаць з грамадскага ўжытку. З аб'ектыўным аналізам гэтай сітуацыі на старонках газеты выступілі многія дзеячы мастацтва, пісьменнікі, вучоныя, настаўнікі. Даслалі свае водгукі многія чытачы. Рэдакцыйная пошта на гэту тэму працягвае расці.

Мы далі таксама слова кіраўнікам адпаведных устаноў.

Працэсы дэмакратызацыі ў краіне выклікалі рост самасвядомасці народа, яго грамадзянскай актыўнасці, абудзілі ў ім гарачую цікавасць да сваёй гісторыі, культурнай спадчыны.

І тое, што газета павярнулася тварам да сапраўдных, а не надуманых праблем, не парушае прынцыпаў плюралізму думак у іх абмеркаванні, выклікала адпаведную рэакцыю ў чытача.

Але ад мінулага не так лёгка пазбавіцца. Яго рэцыдывы, як бачна, даюць аб сабе знаць і сёння. І гэта якраз стрымлівае ход перабудовы. Што я маю на ўвазе? Нягледзячы на тое, што сталінізм развенчаны ў вачах усяго свету, тым не менш ён не знік цалкам. Праяўляецца падсвядомым пачуццём страху, асцярожнасці, нежаданнем у нешта ўмешвацца. Сталінізм сёння перашкаджае ўсталяванню праўды. Тут, я думаю, усё зразумела. Намі яшчэ цалкам не ўсвядомлена трагедыя тых часоў. У выніку рэпрэсій 30-х гадоў была вынішчана амаль цалкам маладая беларуская інтэлігенцыя. Ледзь не перарвалася пераемнасць культуры... І калі казаць пра сённяшнюю інтэлігенцыю (гэта і творчая, і тэхнічная, і навуковая), то нельга не заўважыць, што ёй бракуе пачуцця менавіта нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнай годнасці. Сярод яе пакуль мала сапраўдных генератараў ідэй, лідэраў, якія здольныя ўвасабляць гэтыя ідэі ў жыццё. Нам жа зараз проста неабходна выпрацаваць стратэгію развіцця айчыннай культуры.



**Аляксей КАРОЛЬ, кандыдат гістарычных навук**

**— За апошні час вам, як прадстаўніку гістарычнай навукі, давялося ўдзельнічаць у шэрагу семінараў, «круглых сталоў», у сустрэчах з прадстаўнікамі неафармальных аб'яднанняў па праблемах нацыянальнай гісторыі. І, відаць, гучалі на іх вострыя крытычныя заўвагі, ляцелі «ў агарод гісторыкаў» важкія камяні...**

— Расказваюць, што ў жыцці вялікага рускага хіміка Мендзялеева быў такі эпізод. Ехаў ён па сталічнаму гораду і звярнуў увагу на ўзбуджаную групу людзей непадалёк.

— Што там адбываецца? — пацікавіўся Мендзялееў.

— Нічога асаблівага: якогасьці хіміка б'юць, — пачуў у адказ.

Сітуацыя з гісторыкамі мне ў прынцыпе здаецца вельмі падобнай на тую, з хімікамі. Але, на шчасце, такія рэзка крытычныя, адназначна адмоўныя адносіны да гістарычнай навукі ўжо паступова слабеюць. Яны ўступаюць месца ўдумліва-крытычным адносінам, у якіх пераважае імкненне ўсебакова, глыбока і сумленна разабрацца ў нашай даўняй і нядаўняй гісторыі, зразумець яе драматычны ход, дакапацца да ісціны, вызваліць гістарычную навуку ад дэфармуючых яе вульгарна-сацыялагічных напластаванняў, схем, стэрэатыпаў і догмаў часоў культу асобы і застою.

Напластаванні, на жаль, цяжкія. Музу гісторыі нярэдка ставілі на калені перад начальніцкай думкай, якая выдавалася за ісціну ў апошняй інстанцыі. Дэфармацыя, застой у грамадстве — застой у навуках.

І, наадварот, актывізацыя жыцця грамадства, паварот да радыкальных эканамічных і сацыяльных рэформаў зараз жа адгукаюцца аздараўленнем у навуках.

Гісторыкі паступова вызваляюцца ад страху мінулых гадоў, падымаюцца над уласным унутраным рэдактарам, і як вынік — да іх вяртаецца кваліфікацыя. Адыграла сваю ролю і рэзкая крытыка ў адрас гісторыкаў. Яна ж таксама абуджае думку, нараджае здаровую творчую злосць, падштурхоўвае да пошуку. І таму гісторыкі ўдзячны нават за рэзкія ў іх адрас ацэнкі з боку публіцыстаў і пісьменнікаў, нават за тыя камяні, якія ляцяць у іх агарод. На добры лад, дык і гэтыя камяні таксама прыгодныя ў справу. Іх ужо накапілася дастаткова, каб пачаць закладваць фундамент супрацоўніцтва, таго супрацоўніцтва, калі праўду гісторыі скажуць гісторыкі, вастрыню бачання праблем сённяшняга дня — публіцысты. І падставы да такога супрацоўніцтва, як мне здаецца, ужо намеціліся. Тыя «круглыя сталы» па праблемах нацыянальнай гісторыі—этнагенезе беларускага народа, фарміравання яго дзяржаўнасці, Кастрычніцкай рэвалюцыі, утварэння БССР, якія ўжо адбыліся ў БДУ, Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ, даюць падставу для такога вываду. У іх рабоце разам з гісторыкамі прымалі ўдзел і пісьменнікі. Матэрыялы аднаго з іх ужо апублікаваны, іншыя — рыхтуюцца да друку. Напярэдадні «круглыя сталы» па праблемах індустрыялізацыі, калектывізацыі, Айчыннай вайны. З'явіліся ўжо і першыя публікацыі гісторыкаў, у якіх зроблены спробы па-новаму асэнсаваць тыя або іншыя з'явы мінулага, закрыць «белыя плямы», вярнуць з забыцця многія слаўныя імёны, ачысціўшы іх ад незаслужаных абвінавачванняў.

Перад гістарычнай навукай стаіць мноства праблем. Дзякуй богу, выкаранецца той пункт погляду, калі актуальнымі лічыліся тыя тэмы, якія храналагічна бліжэй да сучаснасці.

Сказваецца і недахоп падрыхтаваных кадраў гісторыкаў. А пры тым кан'юнктурным падыходзе да гісторыі, які вызначаны перыяд застою, мы не атрымалі адказу і на пытанні аб грамадстве, у якім жывём. Цяпер гэтыя пытанні гранічна зліліся: усебаковыя веды аб гістарычным мінулым неабходны нам, каб зразумець сучаснасць, абраць правільны шлях у будучыню.

Канчатковы поспех у многім залежыць ад інтэлігенцыі: яе інтарэсу, яе адносін да гісторыі, патэнцыялу яе смеласці, рашучасці, шырыні мыслення, здольнасці да дынамічнага пазнання гэтай гісторыі ў сукупнасці ўсіх яе бакоў і супярэчнасцей. А падводных камянёў тут нямала: ад тэндэнцыі падагнаць развіццё свайго народа пад агульную заканамернасць без уліку асаблівасцей—у адных да перабольшвання нацыянальнай своеасаблівасці (ледзь не выключнасці) — у другіх.

Дарэчы, мы, па сутнасці, вельмі слаба ведаем і гісторыю самой беларускай інтэлігенцыі. Так, асобныя штрыхі да партрэта. А інтэлігенцыя сёння? Які яе сацыяльны і прафесіянальны склад, які яе настрой думак, творчы патэнцыял, яе ўплыў, яе месца і роля ў грамадстве? Пытанні без дакладных адказаў. На ўзроўні асабістых уражанняў.

Неаднародны і агульны, відавочны сёння для ўсіх інтарэс да гісторыі. Неаднародны па праблемах. Неаднолькавы ў розных пластах насельніцтва. Тут, зноў жа, няма пакуль сацыялагічных даных. Па асабістых назіраннях, мне здаецца, гэты інтарэс асабліва вострым да старажытнай гісторыі беларускага народа, станаўлення яго дзяржаўнасці, зараджэння і развіцця беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, падзей 20-х—30-х гадоў.

Што датычыць інтарэсу ў розных пластоў, дык найбольш актыўны ён у творчай інтэлігенцыі. А вось у часткі тэхнічнай і асабліва кіраўніцкай, мне здаецца, гэты інтарэс толькі пачынае абуджацца. Тут сказваецца той гістарычны нігілізм, які, акрамя іншых прычын, у многім ёсць вынік пастаноўкі нашай гістарычнай адукацыі, калі ні гісторыя СССР, ні гісторыя БССР адпаведным чынам у вышэйшых навучальных установах не вывучаліся.

Неаднолькавы інтарэс да гісторыі і ў моладзі. Толькі частка яе актыўная ў сваім імкненні пазнаць сваю гісторыю. Частка ж сканцэнтравана на вузкім пятачку сучасных музычных плыняў, частка наогул бяздумна. У сэнсе інтарэсу да гісторыі заслугоўваюць добрага слова аматарскія аб'яднанні.



**Аляксандр РАШЧЫНСКІ, кампазітар**

**— Наколькі я ведаю, вашы прафесійныя інтарэсы маюць ухіл у бок фальклору. Ужо некалькі гадоў вы кіруеце аматарскім фальклорным калектывам на адным з прадпрыемстваў горада. А разам з тым з'яўляецеся членам моўнай камісіі і гісторыка-мемарыяльнай секцыі Беларускага фонду культуры...**

— Так. Гэта зусім не дзіўна, што я, прафесійны кампазітар, з'яўляюся членам, напрыклад, моўнай камісіі. У яе складзе, дарэчы, ужо больш за 100 чалавек — вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі, інжынеры, мастакі, студэнты, журналісты. (Дарэчы, і ў іншых секцыях — таксама людзі самых розных прафесій).

Справа ў тым, што зараз такі час, калі інтэлігенцыя павінна кансалідавацца, аб'ядноўваць свае намаганні ў вырашэнні тых праблем, якія востра пасталі перад грамадствам жыццё. Напрыклад, моўнае пытанне. Яно не можа быць вырашана ізалявана ад агульных праблем перабудовы, магчымае толькі ў цеснай садружнасці з усімі слаямі насельніцтва, толькі на аснове глыбокай павагі да ўсіх нацыянальнасцей, што жывуць у Беларусі.

Моўная камісія распрацавала «Праграму адраджэння роднай мовы», яна павінна хутка з'явіцца ў друку. Акрамя таго, яе члены мяркуюць арганізаваць курсы беларускай мовы, бяруць удзел у аўтарскіх калектывах па стварэнню падручнікаў, дапаможнікаў, шэфстуюць над дзіцячымі садамі і школамі, праводзяць моўныя святы.



**Яўген ШУНЕЙКА, супрацоўнік Беларускага фонду культуры**

**— Яўген Феліксавіч, якая сёння роля культуры ў нашым жыцці!**

— Без культуры не можа быць дэмакратыі. Без культуры не будзе сапраўднага сацыялізму. Не хлебам адзіным жывы чалавек і нават не сучаснымі матэрыяльнымі дабротамі, больш за ўсё жывы ён праўдай і сумленнем, справядлівасцю, свабодай, маральнасцю і гуманізмам. Сёння галоўнай застаецца пастаўленая Леніным перад народам задача — усялякаць сябе веданнем культуры, створанай усім развіццём чалавецтва...

Менавіта культура робіць адзін народ непадобным на іншы, вызначае яго непаўторны твар. Аднак культура — гэта не толькі помнікі архітэктуры, але і лад жыцця, побыт, паводзіны ў розных абставінах. Недахоп культуры ў чалавека праяўляецца і ў яго адносінах да працы, да прыроды, да ўсяго жывога, да мастацтва. Бездухоўнасць нараджаецца на глебе адсутнасці культуры. З бездухоўнасцю, на жаль, нам часта даводзіцца сутыкацца. Чаму? Дзе яе карані? Я, прынамсі, нярэдка разважаў над гэтымі пытаннямі. Відаць, многае залежыць і ад сістэмы выхавання. Скажам, сучасны малады чалавек атрымаў сярэднюю адукацыю. Ведае фізіку, матэматыку, хімію... Аднак не ведае гісторыі свайго народа, не ведае яго песень, казак, не ўяўляе, якія традыцыі існавалі на зямлі, дзе жылі яго продкі, больш таго—не ведае і мовы бацькоў. Такі чалавек—без каранёў, без памяці, без прыхільнасцей і абавязкаў, — мне здаецца, не здатны быць ні грамадзянінам, ні патрыётам, ні тым больш інтэрнацыяналістам.

Клапоцячыся пра будучыню, мы сёння абавязаны думаць пра тое, каб не згубіць, захаваць увесь генафонд беларускай культуры, зрабіць яго здабыткам кожнага жыхара рэспублікі. Многае ў гэтым напрамку ўжо зроблена нашымі шаноўнымі вучонымі-фальклarыстамі, этнографамі, літаратуразнаўцамі. Фонд

культуры, маладая грамадская арганізацыя, таксама не стаіць у баку ад гэтых праблем.

Яго задача не толькі сабраць і захаваць генафонд нацыянальнай культуры, але і выпрацаваць грамадскія формы кіравання культурай, залучыць да культурнай работы мноства людзей. Пры нашым фондзе мы аб'ядноўваем іх у ініцыятыўныя групы, грамадскія камісіі па краязнаўству, ахове помнікаў архітэктуры і мастацтва, мемарыялізацыі памятных мясцін.

Гэтыя камісіі распрацоўваюць план дзейнасці для практычнага вырашэння найбольш вострых праблем у галіне культуры, а таксама складаюць праграмы доўгатэрміновай дзейнасці, якія забяспечаць дынамічнае развіццё культуры ў будучыні. Дзякуючы дапамозе камісій мы пачалі ўжо праводзіць самыя розныя культурныя акцыі.

Працуючы ў Фондзе, я ўпершыню для сябе атрымаў магчымасць сутыкнуцца з шырокім колам зацікаўленых, інтэлігентных людзей самых розных прафесій і інтарэсаў.

Актывісты Фонду, аб'яднаныя ў камісіі, прадстаўляюць зараз (нават фармальна) не толькі свае асабістыя інтарэсы, а ўсёй нашай грамадскасці, гэта ўжо рэальная актыўная творчая сіла перабудовы. Абуджаць думку, не даваць спакою цемрашальству на глебе бескультур'я, весці за сабою моладзь, уздымаць людзей да гарманічнага, духоўна насычанага жыцця — такія новыя магчымасці зараз адкрываюцца перад інтэлігенцыяй. І трэба сказаць, што яна ўжо актыўна ўзялася за справу. Самаашуканствам было б зараз не «лезці» ў грамадскае жыццё, а ціха займацца любімымі інтэлектуальнмі справамі: пісаць дысертацыю, сачыняць аповесць, маляваць салонную карціну і г. д. Маўляў, абыдуцца і без мяне. Але дзейнасць, пазбаўленая градуса свайго часу, бадай, не зстанецца ў памяці нашчадкаў.



**Уладзімір ГІЛЕП,**
**намеснік міністра культуры БССР**

**— Перабудова выявіла не толькі слабасць культурнай палітыкі, якая праводзілася раней, але ў некаторых выпадках і яе памылковасць. Вядомыя нашы пісьменнікі, публіцысты, заклапочаныя станам айчыннай культуры, выказвалі думкі, што ідэя кіравання культурай — заганная ідэя. Прыхільнікі такой ідэі лічаць, што можна толькі стымуляваць яе. Яны прапануюць адмовіцца ад існуючых міністэрстваў культуры. Адзіны шлях, на іх думку, — падрыхтоўка і скліканне спачатку па абласцях і рэспубліках, затым у краіне кангрэса дзеячаў культуры СССР — мастакоў, членаў іншых творчых саюзаў, кнігавыдаўцоў, навуковых работнікаў, педагогаў, які павінен абраць паўнамоцны выканком дзеячаў культуры.**

**А як вы лічыце: трэба кіраваць культурай ці не!**

— Наогул я негатыўна стаўлюся да самога слова «кіраваць».

Дзяржава ў асобе Міністэрства культуры абавязана клапаціцца, апякаць культуру, і ў першую чаргу музеі, бібліятэкі, тэатры... Ім трэба дапамагаць, фінансаваць, забяспечваць памяшканнямі, абсталяваннем.

Але давайце паглядзім на праблему з іншага боку. Культурай у нас займаюцца розныя структурныя адзінкі — Міністэрствы адукацыі і культуры, Дзяржкіно, творчыя саюзы (разрыў паміж школай і культурай, паміж адукацыяй і культурай, прынамсі, штучны). Дзейнічаюць яны, як правіла, у межах свайго ведамства, часта няўзгоднена, нярэдка дубліруючы адзін аднаго.

Нядаўна кіраўніцтва рэспублікі вырашыла зліць Міністэрства культуры і Дзяржкіно. Гэта дасць магчымасць выходзіць на рашэнне больш маштабных задач.

Само жыццё прымушае нас працаваць па-новаму. Аднак няма так неабходнай сёння навукова абгрунтаванай праграмы развіцця культуры ў рэспубліцы, у абласным, правінцыяльным горадзе, у вёсцы. Прытым развіцця не ізаляванага, а звязанага з развіццём навукі, эканомікі, сацыяльнай сферы.

Гэта ўсё негатыўным чынам адбіваецца на духоўным жыцці грамадства.

Апошнія два гады мы змянілі стыль міністэрскай работы. Пастаянна выязджаем у камандзіроўкі, сустракаемся з людзьмі. Гэта дае магчымасць лепш арыентавацца ў сітуацыі. Усяляк будзем падтрымліваць мясцовых краязнаўцаў, работу гурткоў, якія заняты зборам і захаваннем фальклору, развіццём традыцыйных народных промыслаў.

Маральна ўстарэла мадэль сучаснага клуба. У той іпастасі, у якой існаваў 30-40 гадоў назад, — не задавальняе людзей. Сёння гэта павінен быць цэнтр адпачынку, разлічаны на самыя разнастайныя інтарэсы. Новыя будынкі такіх цэнтраў адпачынку будуць узводзіцца па індывідуальных праектах, з улікам мясцовасці, традыцыйных заняткаў насельніцтва, яго культуры.

Дэмакратызацыя нашага жыцця, перабудова самым спрыяльным чынам адбіваюцца на культуры. Давер'е да людзей, цярпімасць да нязвыклага, кампетэнтнасць, падтрымка талентаў, дальнабачныя адносіны да працэсаў, што ідуць у духоўнай сферы грамадства, садзейнічаюць яе ачышчэнню — вось ключавыя моманты перабудовы ў культуры.





**Яўген Кулік — мастак-графік. Яго творчасць цесна звязана з роднай Беларуссю, з яе гісторыяй, духоўнай спадчынай. Ім была праведзена графічная рэканструкцыя гербаў гарадоў Беларусі, многіх помнікаў гісторыі і культуры. Добрае веданне гісторыі дапамагло яму ў рабоце над ілюстрацыямі да кнігі М. Гусоўскага «Песня пра зубра», а таксама над графічнымі аркушамі па матывах твораў У. Караткевіча. Касцюмы, зброя, звычаі, кожная дэталь — усё тут дакладнае. Яўген Кулік — нястомны падарожнік. Ён спяшаецца адлюстраваць усё ў сваім дарожным альбоме ці на фотаплёнцы.**

**Яўген Кулік — аўтар ілюстрацый і да шэрагу дзіцячых кніг.**

**НА ЗДЫМКАХ: работа мастака «Памяці народнай мастачкі Алены Кіш»; мастак-графік Я. КУЛІК.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

***ВАСІЛІЙ АНДРЭЕЎ І ЯГО «ВЕЛІКАРУСКІ АРКЕСТР»***

# ШТО ЗА ХАРАСТВО ГЭТЫЯ БАЛАЛАЙКІ!

Споўнілася сто год з дня заснавання Васіліем Андрэевым першага аркестра рускіх народных інструментаў. І названы ён ім быў «Велікарускім» па складу інструментаў, што належаць да сярэдняй і паўночнай Расіі, гэта значыць, Велікаросіі.

Вядучы голас у гэтым своеасаблівым аркестры належыць балалайцы, першае ўпамінанне аб якой адносіцца да пачатку XVIII стагоддзя. Паводле сведчання аднаго з відавочцаў, на такім інструменце ігралі на свяце, наладжаным па загаду Пятра I у 1715 годзе. А ўжо праз некалькі дзесяцігоддзяў балалайка набывае ў Расіі значэнне «ўсенароднейшага інструмента» і становіцца абавязковай удзельніцай народных гулянняў, вяселляў, розных святаў. У канцы ж XIX стагоддзя яна атрымлівае новае жыццё і становіцца інструментам аркестра.

А адбылося гэта так.

Рускі барын са старадаўняга дваранскага роду Васілій Андрэеў і не думаў, што прысвеціць сваё жыццё ігры на балалайцы, што першым вынесе яе, няхітра змайстраваную з чатырох дошчачак ды струн, на сцэну. Ён успамінае: «Быў ціхі чэрвеньскі вечар. Я сядзеў на тэрасе свайго вясковага дома. Раптам пачуў невядомыя яшчэ для мяне гукі. Ігралі на струнным інструменце. Гукі разгараліся, мелодыя лілася, поўная рытму, нястрымна падштурхоўваючы да скокаў. Я пабег да флігеля, адкуль несліся гукі. Перада мной на ганку сядзеў стары селянін Анціп і іграў на балалайцы! Я быў уражаны рытмічнасцю і арыгінальнасцю прыёму ігры... І ніяк не мог зразумець і спасцігнуць, як такі ўбогі з выгляду, недасканалы інструмент можа даваць столькі гукаў».

Андрэеў вырашыў сам навучыцца іграць на балалайцы. І не проста, а «давесці ігру да дасканаласці». Цэлымі днямі праседжваў ён у хаце ў дзеда і ўслухоўваўся ў яго ігру. Добры музыкант, ён хутка засвоіў «Анціпаву навуку». Але патрэбен быў добры інструмент, аднак ніхто не згаджаўся зрабіць «мужыцкую» рэч. Пад вялікім сакрэтам зрабіў яго вядомы пецярбургскі скрыпічны майстар Уладзімір Іваноў. «Натурай» паслужыла танная вясковая балалайка з простай елкі.

«Гарадская» намнога перасягнула сваю папярэдніцу. Яна літаральна спявала пад пальцамі, а кузаў яе са звонкага горнага клёну дазволіў намнога павялічыць гукавы дыяпазон. Потым Андрэеў разам са сваім сябрам і паплечнікам, выдатным майстрам Сямёнам Налімавым многа працуе над паляпшэннем строю, тону і вонкавай формы балалайкі. Майстэрня Налімава ў вёсачцы Мар'іна Цвярской губерні становіцца своеасаблівай «балалаечнай Крэмонай». Яшчэ пры Андрэеве ў Расіі было выпушчана 200 тысяч інстру[illegible]таў. І якіх толькі балалае[illegible]м не было! Іх ствараюць майстры першага значэння, распісваюць лепшыя жывапісцы карункамі рускага арнаменту, казачнымі і быліннымі сюжэтамі. Вядомы балалайкі работы Урубеля, Галавіна...

Імя само[illegible] Андрэева становіцца ўсё больш і больш папулярным: ён іграе ўсюды, арганізоўвае гурткі і класы, даймае антрэпрэнёраў.

Першае яго публічнае выступленне 23 снежня 1886 года ў Пецярбургу праходзіць з поспехам. Публіка і крытыка звяртаюць увагу на талент Андрэева, «мужыцкі» інструмент у разлік не ідзе.

Андрэеў вядзе нястомны пошук. На вясковых гарышчах адкопвае ён старыя берасцяныя пастуховыя ражкі, жалейкі, гуслі, гудкі, лыжкі, трашчоткі, бубны, каб адрадзіць забытыя народныя інструменты. Ён стварае спачатку Ансамбль сямі балалаек, а к канцу 90-х гадоў — Велікарускі аркестр народных інструментаў, які быў задуманы як аркестр узорны. Усё далейшае markdown рознабаковае жыццё Васілія Андрэева як дырыжора, кампазітара, педагога, музычна-грамадскага дзеяча, асветніка было звязана з гэтым аркестрам.

«Бацька балалайкі» возіць сваё дзецішча па ўсёй рускай зямлі. І андрэеўскія канцэрты, як пішуць сучаснікі, суправаджаюцца «градам захопленых апладысментаў», «бясконцымі бісамі».

Стаіўшы дыханне слухалі рускія народныя песні: «Выйду ль я на реченьку», «По улице мостовой», «Во пиру была», «Во саду ли в огороде», «Барыня», а таксама «Камаринская» Глінкі. І музыка, створаная народам, несла на рускае прыволле — у бяскрайнія стэпы, на прасторы паўнаводных рэк, у свет палёў і дуброў. Быў створаны рэпертуар з народных песень, твораў рускіх і замежных кампазітараў. У кожную праграму ўваходзілі п'есы і самога Васілія Андрэева. Чайкоўскі з задавальненнем слухаў андрэеўцаў і пісаў: «Што за харацтво гэтыя балалайкі! Які цудоўны эфект могуць яны даць у аркестры».

У 1889 годзе андрэеўскія балалаечнікі з'яўляюцца на Сусветнай выстаўцы ў Парыжы. Французы адзначаюць своеасаблівасць і самабытнасць інструментаў, іх рэдкія гукі і ўдастойваюць Андрэева і Налімава вялікіх залатых медалёў. Кампазітар Маснэ піша: «Я слухаў з вялікай цікавасцю гурток рускіх балалаечнікаў і ў захапленні ад іх талентаў і гукаў, якія яны здабываюць са сваіх такіх маляўнічых інструментаў».

Канцэртныя паездкі Велікарускага аркестра па Расіі, выступленні ў Германіі, Францыі, Англіі, Амерыцы, Канадзе прынеслі яму сусветную славу. Але лепшай узнагародай аркестру стала нараджэнне такіх жа аркестраў, якія з'яўляліся на радзіме і за яе межамі. Колькасць аматараў ігры на народных інструментах няўхільна расла. І ўсё ж шлях да прызнання аркестра быў цяжкі: бліскучых поспехаў ён дабіваўся праз неразуменне, матэрыяльныя цяжкасці. Але вялікая вера ў высокае прызначэнне народнага мастацтва ўсяляла ў яго сілы...

Пасля рэвалюцыі 1917 года андрэеўскі аркестр атрымаў назву — Першы Велікарускі аркестр і стаў паспяхова працягваць сваю асветніцкую дзейнасць. З таго часу прайшло ўжо нямала гадоў, і цяпер аркестр народных інструментаў носіць імя свайго заснавальніка. Адно пакаленне музыкантаў змяняе другое, але ўсе разам яны захоўваюць і развіваюць сёння традыцыі выдатнага музыканта, заснавальніка ігры на рускіх інструментах Васілія Андрэева.

Цяпер у Савецкім Саюзе дзейнічаюць сотні музычных школ, мноства аматарскіх гурткоў, у якіх вучаць ігры на балалайцы і іншых рускіх народных інструментах. Ва ўсім свеце вядомы імёны выдатных віртуозаў-балалаечнікаў Мікалая Осіпава, Міхаіла Ражкова, Паўла Нічыпарэнкі, а выступленні аркестраў народных інструментаў Усесаюзнага радыё і тэлебачання, імя Осіпава і Андрэева карыстаюцца нязменнай папулярнасцю. Да рускіх інструментаў пастаянна звяртаюцца ў сваёй творчасці многія савецкія кампазітары.

І апошняе. Выйшаў у свет падрыхтаваны фірмай «Мелодия» дыск Васілія Андрэева і яго аркестра, прымеркаваны да 100-гадовага юбілею. Пры ўсёй тэхнічнай недасканаласці старых грамзапісаў дыск дае магчымасць сучасным слухачам адчуць галоўнае — давядзенае да дасканаласці выкананне на рускіх народных інструментах.

**Ірына МАКАРЭВІЧ.**

## БУДЗЕ РЭСТАЎРЫРАВАНЫ ЯШЧЭ АДЗІН ПОМНІК АРХІТЭКТУРЫ

# ЗАМАК У ЛЮБЧЫ

На высокім пагорку сярод зеляніны парку ўзвышаецца Любчанскі замак. Каля яго пабудоў, сярод якіх вылучаюцца дзве велічныя сярэдневяковыя вежы, працякае прыгажун Нёман, а за ім, як акінуць вокам, лугі, лясы са стогадовымі дрэвамі і разнастайнай фаунай. Зусім нядаўна аб Любчанскім замку пісалі падрабязна, з павагай і захапленнем, але — у мінулым часе: існавала думка, што падчас руска-польскай вайны 1654—1667 гадоў ён быў цалкам разбураны. Ды, вытрымаўшы ўсе выпрабаванні — часам, стыхіяй, войнамі, — ён дажыў да нашых дзён.

Знаходзіцца замак на паўднёва-ўсходняй ваколіцы цяперашняга пасёлка, былога мястэчка Любча.

Адно з паданняў сведчыць, што яшчэ ў сярэдзіне XIII стагоддзя манах-дамініканец Віт заснаваў тут кляштар. Калі верыць іншаму паданню, першым уладальнікам Любчы быў кіеўскі баярын Андрэй Кіян, што збег некалі ад татарскага палону ў навагародскую зямлю і атрымаў там каля 1250 года ад князя Міндоўга мястэчка, назваўшы Любчай.

Большасць гістарычных крыніц упершыню ўзгадваюць мястэчка пад 1499 годам, калі вялікі князь літоўскі Аляксандр «дараваў двор Любчу» падскарбію Фёдару Храптовічу.

У XVI стагоддзі Любча пераходзіць да магната-кальвініста Яна Кішкі. Новы ўладальнік збудаваў у мястэчку кальвінскі збор, які існаваў да 1730 года, заснаваў друкарню, што ўвайшла ў гісторыю беларускага кнігадрукавання. У пачатку XVII стагоддзя яна была адной з самых вядомых на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Усяго за перыяд яе дзейнасці тут пабачылі свет больш чым 50 выданняў, сярод якіх, акрамя пратэстанцкіх кніг, былі працы па гісторыі і медыцыне, вершаваныя зборнікі, мастацкая літаратура, фальклорныя выданні, зборнікі песень — канцыяналы.

Магдэбургскае права, нададзенае Любчы ў 1590 годзе, спрыяла эканамічнаму развіццю горада, гарантавала адносную самастойнасць у кіраванні і гандлі. Горад атрымаў герб: на блакітным фоне сярэбраная падкова з трыма залатымі крыжамі (адзін зверху і два па баках), у сярэдзіне падковы — два ласосі, накіраваныя галовамі ў розныя бакі.

У 1606 годзе Ганна Кішчанка ўзяла шлюб з Хрыстафорам Радзівілам, якому праз год перадала ўсе свае маёнткі, у тым ліку і Любчу. З гэтага часу мястэчка доўгі час — да сярэдзіны XIX стагоддзя — было ўласнасцю вядомага княжацкага роду Радзівілаў. Доўгі час лічылася, што Любчанскі замак быў пабудаваны Мікалаем Радзівілам. Аднак даследаванні, праведзеныя супрацоўнікамі вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя», дазваляюць сцвярджаць, што замак узведзены не пазней апошняй чвэрці XVI стагоддзя, гэта значыць, у час, калі ўладаром мястэчка быў Ян Кішка.

У Любчанскім школьным музеі захоўваецца флюгер (ветранік), які знойдзены падчас будаўнічых работ у 1968 годзе, на ім выява прыватнаўладальніцкага герба і дата — 1581 год, якая, на наш погляд, можа азначаць дату заснавання замка. Ветранік захаваўся не цалкам: адсутнічае адзін з чатырох фрагментаў, якія складаюць яго кампазіцыю. Выяўлены ў Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве БССР у Мінску графічны аналаг дазволіў зрабіць рэканструкцыю флюгера.

Археалагічныя даследаванні, праведзеныя на тэрыторыі замка, пацвердзілі, што будынкі, якія захаваліся, і падмуркі разбураных пабудоў выкананы ў тэхніцы, характэрнай для другой паловы XVI стагоддзя.

Замак у Любчы быў пабудаваны ў адпаведнасці з лепшымі традыцыямі рэнесансу. Яго план адпавядаў характэрнай для гэтага стылю кампаноўцы: па кутках чатырохвугольнага, блізкага да квадрата, абарончага мура выступалі вежы з круглымі байніцамі.

Архіўныя дакументы сведчаць, што ўжо ў 1600 годзе існавалі тры мураваныя вежы (чацвёртая, заходняя вежа, верагодней за ўсё драўляная, была ўзведзена пазней, у першай палове XVIII стагоддзя). Вакол замка з трох бакоў праходзіў глыбокі роў, які злучаўся з рэчкай і пры неабходнасці мог напаўняцца нёманскай вадой. На яго тэрыторыю можна было трапіць толькі праз пад'ёмны мост і вежу-браму, якая захавалася да нашых дзён аднachасова з паўднёвай вежай.

У XVII стагоддзі Любчанскі замак разам з такімі вядомымі замкавымі ансамблямі, як Нясвіж, Біржы, Таўрогі, быў замкам-рэзідэнцыяй. Вядома, што ў 1663 годзе на яго тэрыторыі знаходзілася кунсткамера, у зборах якой былі выдатныя мастацкія палотны, скульптуры, калекцыя мініяцюр, зборы рукапісаў, гісторыка-этнаграфічныя экспанаты, компасы і старажытныя матэматычныя інструменты, чучалы розных жывёл і творы ювелірнага мастацтва.

На жаль, Любчанскі замак вельмі пацярпеў у 50-х гадах XVII стагоддзя: не вытрымалі варожага націску замкавыя муры, значна пашкодзілася паўночная вежа, што злучалася з вежай-брамай суцэльным шэрагам каменных будынкаў, была знішчана ўсходняя наднёманская вежа. Нягледзячы на некаторую адбудову замка яго тагачасным уладальнікам Багуславам Радзівілам, ён не быў цалкам адноўлены і былога значэння ўжо не меў. Унікальныя экспанаты з Любчанскага палаца былі разрабаваны, вывезены за мяжу, а лёс многіх невядомы і сёння. Але мы ведаем, што некалькі мастацкіх палотнаў знаходзіцца ў Нацыянальнай галерэі ў Лондане, іншыя ўпрыгожваюць музеі Польскай Народнай Рэспублікі.

Пасля смерці Багуслава Радзівіла ў 1669 годзе, які не пакінуў нашчадкаў, замак перайшоў да арандатараў, бо яго ўладальнікі жылі за мяжой.

У XVIII—XIX стагоддзях замкам валодалі Радзівілы нясвіжскай лініі, потым — прадстаўнікі родаў Вітгенштэйнаў і Гогенлоэ.

У 1892 годзе Любчу купіў Эдуард Фальц-Фэйн. Верагодна, дзякуючы яму, у Любчанскім парку растуць рэдкія дрэвы — чорны арэх, хвоя веймутава, еўрапейская і сібірская лістоўніцы, прывезеныя хутчэй за ўсё з запаведніка Асканія-Нова ([illegible]ыме), гаспадаром якога таксама быў Э. Фальц-Фэйн.

Змяняліся ўладальнікі мястэчка і замка, узводзіліся новыя будынкі, што адпавядалі іх магчымасцям і густам, але старажытныя, мураваныя вежы працягвалі жыць. Толькі ў першай палове XIX стагоддзя былі разабраны рэшткі паўночнай вежы, якая пацярпела болей за іншыя.

У 1864—1870 гадах на тэрыторыі замка быў пабудаваны неагатычны каменны палац. У першую сусветную вайну ён быў часткова разбураны. У 1946 годзе на яго падмурках узвялі будынак, дзе размясцілася школа, пры гэтым былі скарыстаны кавалкі сцен старога палаца.

Замак у Любчы — выдатны твор беларускага дойлідства. Зараз распрацаваны праект рэстаўрацыі помніка (аўтарскі калектыў—Л. Баркун, архітэктар, С. Адамовіч, гісторык, І. Чарняўскі, археолаг), галоўная мэта якога — вяртанне замку яго эстэтычнай і культурнай вартасці. Замак, які значна змяніўся за доўгія стагоддзі існавання, вяртаецца да новага жыцця.



Любчанскі замак. Выгляд з боку ракі Нёман. Фота 1894 года.

С. АДАМОВІЧ.






У разгары летнія Алімпійскія гульні. Упэўнена выступаюць на іх спартсмены Савецкага Саюза. На сённяшні дзень на іх ліку самы вялікі «ўраджай» медалёў.

А пачатак паклала прадстаўніца Беларусі Ірына Шылава. Яна заваявала залаты медаль у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

Складаны спартыўны лёс нашай зямлячкі. Спачатку спрабавала «паспрачацца» з самой Вольгай Корбут: некалькі гадоў сур'ёзна займалася спартыўнай гімнастыкай. Але потым зразумела, што гэта не яе від спорту. Вось і перакваліфікавалася на стральбу.

Удала выступаюць у складзе зборнай СССР і іншыя беларускія спартсмены. Залаты медаль заваяваў барэц класічнага стылю мінчанін Камандар Маджыдаў. *Ветэран* айчыннага спорту рапірыст Аляксандр Раманькоў заваяваў у асабістым заліку бронзавы медаль. Па-за канкурэнцыяй на Алімпіядзе былі савецкія гімнасты. Мужчынская зборная заняла першае месца. На п'едэстал гонару пасля спаборніцтваў у асабістым першынстве падняліся толькі савецкія спартсмены: Арцёмаў, Люкін, Білазерчаў. У складзе зборнай краіны залатымі медалямі ўзнагароджаны беларускія гімнасткі Святлана Баітава і Святлана Багінская.

Вялікае прадстаўніцтва ў камандзе СССР на Алімпіядзе спартсменаў нашай рэспублікі. Добрыя шанцы заваяваць узнагароды маюць гандбалісты, дзе выступаюць мінчане Юрый Шаўцоў, Аляксандр Каршакевіч, Аляксандр Тучкін, Георгій Свірыдзенка і Канстанцін Шараварaў, баскетбалісткі — тут гуляюць Галіна Савіцкая і Ірына Сумнікава. Спадзяёмся мы і на перамогу нашых славутых штангістаў Леаніда Тараненкі і Аляксандра Курловіча.

НА ЗДЫМКУ: Ірына ШЫЛАВА.

## НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ

# ПЕШШУ ПА КРАІНЕ

У сакавіку 1987 года рэспубліканская газета «Звязда» расказала пра мінчанку Л. Картавенку. Ёй ужо за шэсцьдзесят. «Прыгаворная» ўрачамі да пажыццёвай другой групы інваліднасці, Лідзія Аляксандраўна не толькі не пакарылася волі лёсу, але і вырашыла выканаць сваю даўнюю задуму: абысці ўсю Расію...

Нядаўна вядомая турыстка вярнулася са свайго дзевятага паходу па маршруту Акцюбінск — Арэнбург — Ілецк — Уральск — Саратаў — Павлец — Масква. За 38 дзён шляху было пройдзена пехатой 1 850 кіламетраў.

Ніякіх змен у падрыхтоўцы да паходу, распарадку дня і харчавання не адбылося. Як звычайна, Лідзія Аляксандраўна трэніравалася, займалася «маржаваннем», хадзіла ў групу здароўя, па суботах вадзіла аматараў пешых паходаў на Вячу. У дарогу ўзяла мінімум рэчаў вагой 7 кілаграмаў, і ніякай ежы, акрамя пачка талакна, 200 грамаў алею, паўбуханкі хлеба. У першы дзень паходу ўстала ў 5 гадзін раніцы, піла ваду, а з 6 гадзін пачалася дарога. Абедала хлебам з травамі. Калі трапляла ў сталовыя, брала сёе-тое з гарніраў.

На гэты раз паход пачаўся з канцавога пункта маршруту — з Акцюбінска. Падарожніцы вельмі хацелася паглядзець квітнеючы стэп, і ён не падмануў яе чаканняў. Л. Картавенка прайшла па стэпу больш як 800 кіламетраў і ўвесь час захаплялася яго прыгажосцю.

Лідзія Аляксандраўна паранейшаму перакапана ў тым, што толькі актыўныя адносіны да жыцця могуць захаваць чалавеку здароўе і дзейнае даўгалецце.

Л. МАШЧЭНСКАЯ.



НАШ АДРАС:
МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Зак. № 1348